

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №2 (129)
СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА

**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# “ЁСЦЬ НЕАБХОДНАСЦЬ”

**“Нацыянальная памяць прэпаруецца і ачышчаецца ад усіх персанажаў з духам мяцежнасці, паўстанцкай рамантыкі. Ствараецца прарасійская версія беларускай гісторыі, яе героі па вызначэнні не могуць працістаяць уладзе, пагатоў са зброяй у руках. Сімптаматычна, што адзінай дзяржаўнай узнагародай, якую Лукашэнка скасаваў за час свайго кіравання, быў ордэн Каліноўскага”.**

У гэтым выказванні Валерка Булгакаў вельмі ўдала акрэсліў той працэс, які ініцыяваны на Беларусі тутэйшай прарасейскай уладай. І як гэта бывае ва ўсе часы, вернападданыя рэжыму псеўдагісторыкі і ідыёлагі заўзята бяруцца за стварэнне свайго бачання праміналых ужо падзей. Гэты працэс пачаўся не сёння, але добрай нагодай для агучвання імі сваіх вынаходніцтваў стала сёлетняе 150-годдзе з дня пачатку паўстання 1863-1864 гг. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. З гэтай нагоды 20 студзеня ў Менску прайшла канферэнцыя “Польскае шляхецкае паўстанне 1863 года. Погляд на падзеі праз 150 гадоў”, у якой узялі ўдзел амаль… паўтары дзесятка прыўладных гісторыкаў.

Дык вось высновы, зробленыя на канферэнцыі, могуць шакаваць нават далёкіх ад тэмы людзей: “…Каліноўскі…тэрарыст”, “ Каліноўскі … глыбока ненавідзеў беларускі народ…”, “Мураўёў распрацаваў сістэму мераў … сацыяльна-эканамічнай, культурнай і этнічнай мадэрнізацыі беларускага сялянства”, “нацыянальным героем Беларусі Каліноўскага зрабілі бальшавікі, апазіцыянеры і нацыяналісты..”, “( Каліноўскі) бачыў народ менавіта як грамадзян … аднолькавай польска-літоўскай Айчыны. Міфалогія ў „Мужыцкай праўдзе” —абсалютна польская паводле свайго характару”.

Як жа маркуюць пазбавіцца ад “каліноўшчыны” гэтыя “ паважаныя навукоўцы”? Шлях да развянчання міфу ляжыць праз “ заходнарусізм”, “пераемнасць Рэспублікі Беларусь з… Кіеўскай Руссю”, “ вяртанне ў Мінск помніка Аляксандру II”. Трэба сказаць, невялікі арсенал мераў, якія наўрадці змогуць дасягнуць сваіх мэтаў без заўважнай падтрымкі дзяржавы.

На старонках нашае сціплае газеты можна, канечне, не звяртаць увагі на падобныя захады тутэйшых псеўданавукоўцаў , як гэта робяць “ Наша Ніва” ці “ Свабода”, але справа ў тым, што дыскусія аб ролі Каліноўскага і месцы паўстання ў гісторыі Беларусі сягае далёка за межы чыста навукова-ідыялагічных развагаў.

На мясцовых віцебскіх блогах гэтыя ідэалагічныя сутыкненні маюць куды большы запал, бо ўсё гэта адбываецца ў рэальным часе паміж людзьмі, якія з’яўляюцца як носьбітамі нацыянальнай ідэі, так і прыхільнікамі “заходнарусізму”. І тым прыемней усведамляць, што нейкая частка блогераў досыць добра валодае фактычным матэрыялам і робіць цікавыя высновы.

Хацелася б агучыць галоўную выснову зробленую блогерамі ў выніку эмацыйнага абмеркавання: “ …пытанне стаўлення да паўстання пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага – гэта пытанне цывілізацыйнага выбару паміж Захадам і Ўсходам”. Сыходзячы з гэтага становішча зразумелым, чаму існая тут улада імкнецца вырашыць для сябе “праблему Каліноўскага”. Постаць героя папросту не ўкладваецца ў збудаваную тут за Лукашэнкам сістэму прыярытэтаў. Паўстанне, якое нясе выключна антырасійскую скіраванасць, не мае для рэжыму ніякай каштоўнасці.

Але каб зразумець на чыім баку праўда, чаму на Беларусі не святкуецца 150-годдзе паўстання і чый жа нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі(беларускі, польскі ці літоўскі), не трэба заглыбляцца ва ўсе перапетыі тае далёкае гісторыі–дастаткова прачытаць некалькі нумароў “ Мужыцкай праўды”. Разабраная на цытаты газета дае даўпроставыя адказы і відавочна аспрэчвае зробленыя рознымі “гігінымі” высновы. Нават ад гэткага невялікага выказвання нацыянальнага героя тутэйшым ідыёлагам становіцца не па сабе: “ покуль яна(няволя маскоўская) ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, але на пагібель нашу”. “Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе”.

Але ж трэба памятаць, што Каліноўскі быў не адзіны ў сваіх перакананнях і поглядах . Ягоныя паплечнікі былі не менш патрыятычнымі і гераічнымі людзьмі. Калі пачалося паўстанне, жонка аднаго з правадыроў паўстанцаў Рамуальда Траўгута спытала ў мужа: «Ці ёсць сэнс у гэтым паўстанні?» Траўгут адказаў: «Не ведаю, ці ёсць сэнс, але ёсць неабходнасць».

Усе наступныя падзеі нацыянальнай гісторыі цалкам падцвердзілі прарочыя словы Р. Траўгута. Калі б не тое паўстанне, то хто б узгадаў зараз пра Беларусь? Так што ні Каліноўскага, ні іншых вядомых і невядомых герояў тае святое барацьбы беларусы ніколі не забудуць і нікому не аддадуць на здзек і забыццё.

**Рэдактар.**

ЭКАНОМІКА

# Справы з інвестыцыямі

**За студзень-лістапад 2012 года на развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы раёна выкарыстана 627 млрд. рублёў інвестыцый, што ў супастаўных коштах складае 81,6 адсотка.**

Арганізацыямі, падпарадкаванымі райвыканкаму, выкарыстаны 279,9 млрд. рублёў інвестыцый, ці на 121,9 адсотка да ўзроўня мінулага года пры заданні 110 адсоткаў.

Удзельная вага выдаткаў на набыццё машынаў, абсталявання, транспартных сродкаў у аб’ёме інвестыцый у асноўны капітал склала 34,7 адсотка.

Прадпрыемствамі без ведамаснай падпарадкаванасці прыцягнуты 23,6 млрд. рублёў інвестыцый у асноўны капітал, што складае 115,9 адсоткаў да ўзроўня 2011 года.

У 2012 годзе ўведзена ў эксплуатацыю аўтадарога Паўднёва-заходні абыход г. Віцебска на ўчастку Дыманова-Старынкі.

Завяршаюцца працы па будаўніцтве блока цяплiц плошчай 10 га ў ААТ «Рудакова». Зроблены капітальны рамонт з мадэрнізацыяй дзесяці МТФ. Вядзецца будаўніцтва Віцебскай ГЭС магутнасцю 40 МВТ з планаваным уводам у эксплуатацыю ў 2014 годзе.

**Ян Сведка.**

# Спрошчаная сістэма

**Больш чвэрці індывідуальных прадпрымальнікаў у Віцебскім раёне ўжываюць спрошчаную сістэму падаткаабкладання.**

Ад ІП у бюджэт раёна летась паступіла 4,6 мільярды рублёў. Удзельная вага ў агульных паступленнях перавысіла 5%. Па стане на 1 студзеня 2013 года ў падатковай інспекцыі Віцебскага раёна на ўліку знаходзіліся 550 індывідуальных прадпрымальнікаў. У параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года колькасць ІП павялічылася на 54 суб’екты.

**Ян Сведка.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Канфлікт скончыўся міравым пагадненнем

**З прычыны несвоечасовай дастаўкі паштовага адпраўлення Пётар Іваноў звярнуўся ў суд Кастрычніцкага раёну Віцебску з патрабаваннем кампенсаваць яму маральную шкоду, нанесеную непрафесійнымі дзеяннямі работнікаў «Белпошты». У судзе прадстаўнікі адказчыка сваю віну прызналі, прынеслі заяўніку свае прабачэнні і прапанавалі міравое пагадненне. Такое пагадненне было заключана, а актывіст наўпрост у будынку суду атрымаў ад паштальёнаў 600 тысячаў рублёў кампенсацыі.**

Гісторыя, у якой цяпер пастаўлена кропка, распачалася пад час парламенцкіх выбараў 2012 году. На тых выбарах Пётар Іваноў быў удзельнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Выконваючы свае абавязкі па назіранні за выбарчым працэсам у рамках гэтай кампаніі, ён пазнаёміўся з кіраўніком місіі БДІПЧ АБСЭ Антоніё Мілашоскім. Апошні, даведаўшыся, што напярэдадні заключнага дня галасавання мае адбыцца вяселле дачкі спадара Іванова, даслаў віншаванне, якое кур’ер мусіў уручыць адрасату за дзень да вяселля. Аднак а ні ў той дзень, а ні ў наступны, а ні праз тыдзень віншаванне маладым так і не было дастаўлена. Пётар Іваноў, хутчэй за ўсё, зусім бы і не даведаўся пра існаванне, калі б праз некаторы час яму не патэлефанаваў перакладчык місіі АБСЭ і, між іншым, не пацікавіўся б, як прайшло вяселле і як было ўспрынята віншаванне ад кіраўніка місіі АБСЭ.

Антоніё Мілашоскі быў збянтэжаны тым, як беларуская паштовая служба абышлася з ягоным віншаваннем, якое, як яму паведамілі, нібыта было ўручана адрасату.

Тым часам Пётар Іваноў пачаў шукаць згубленую паштоўку, якую нарэшце і знайшоў у адным з кабінетаў сектару абслугоўвання карпаратыўных кліентаў (САКК).

У кнігу заўвагаў і прапаноў САКК была ўнесена адпаведная заўвага, на якую праз два тыдні была атрымана адпіска за подпісам намесніцы дырэктара Віцебскага філіялу РУП «Белпошта». У лісце Кацярыны Зінкевіч паведаміла: «парушэнняў тэхналагічнага працэсу дастаўкі адпраўлення Netліст з боку працаўнікоў Віцебскага філіялу РУП “Белпошта”ня выяўлена».

Гэтая адпіска была абскарджана міністру сувязі і інфарматызацыі Мікалаю Панцялею, таксама прэтэнзія была накіравана генеральнаму дырэктару РУП «Белпошта» Ірыне Саксонавай. Высокапастаўленыя сталічныя чыноўнікі прызналі зварот спадара Іванова абгрунтаваным, шэрагу службовых асобаў былі аб’яўлены вымовы, а намесніцы дырэктара Віцебскага філіялу РУП «Белпошта» Кацярыне Зінкевіч было «ўказана на недапушчальнага павярхоўнага разгляду зваротаў грамадзянаў».

Зразумела, што пасля такой рэакцыі з боку міністра і гендырэктара, прадстаўнікам «Белпошты» ў судзе не заставалася нічога іншага, як прызнаць слушнасць выстаўленых у адрас іх арганізацыі патрабаванняў.

Пётар Іваноў перакананы, што ягоная гісторыя даказвае: барацьба за свае правы не зьяўляецца марнай. «Заклікаю ўсіх, хто лічыць, што іхныя правы парушаюцца, не апускаць рукі, захоўваць бадзёрасць, звяртацца да праваабаронцаў, якія абавязкова дапамогуць. І гэта будзе на карысць нашай краіны», – рэзюмаваў віцебскі актывіст.

**Якаў Дрозд.**

ЗДАРЭННІ

# 24-ГАДОВЫ КІРОЎЦА СКАНАЎ НА МЕСЦЫ

**Зімовая дарога ўтойвае небяспеку. Снежныя намеці, галалёд патрабуюць падвышанай увагі за рулём.**

Пра гэтую простую праўду забыўся кіроўца легкавога аўтамабіля ў в. Альгова. Удзень ён здзейсніў наезд на пешахода, які рухаўся ў спадарожным кірунку, у выніку чаго той быў траўмаваны.

Трагічны выпадак адбыўся на мінулым тыдні поруч в. Астроўскія. На заснежанай дарозе занесла ГАЗ-66. Спробы кіроўцы ўтрымаць аўтамабіль на трасе не ўдаліся. Машына трапіла ў кювет і перакуліўся. Ад траўмаў 24-гадовы кіроўца сканаў на месцы. Пасажыр, які ехаў з ім, абышоўся лёгкім спалохам.

**Ян Сведка.**

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч волі».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# «БЕЛАРУСКІ ТЭАТР «ЛЯЛЬКА» ЧАКАЕ ПЕРАЕЗД

**Будынак былога Віцебскага раённага Дома культуры па вул. Энгельса, пабудаваны ў даваенныя часы, афіцыйна перададзены «Беларускаму тэатру «Лялька». Калі зараз у тэатры адна зала на 140 гледачоў, то пасля адкрыцця новага будынку ў тэатра зьявіцца магчымасць для працы на дзвюх сцэнах, а колькасць месцаў павялічыцца ў разы. З пункту ж гледжання архітэктуры новы будынак тэатру стане адным з самых эфектных ва ўсёй Віцебшчыне.**

У красавіку 2012 г. «Беларускаму тэатру «Лялька» споўнілася 26 гадоў. Менавіта столькі часу прайшло з выхаду першага спектакля «Дзед і Жораў». Зараз ужо цяжка ўявіць, што да 1985-га года ў абласным цэнтры не было прафесійнага лялечнага тэатра, на спектаклі якога купіць білеты часам бывае праблематычна.

Наведвальнікаў, як дарослых, так і дзяцей, у дні навагодніх святкаванняў чакалі самыя лепшыя спектаклі, забаўляльныя праграмы, гульні, конкурсы. У межах навагодніх забаўляльных праграмаў прайшлі спектакль «Навагодні церамок» і танцавальна-забаўляльная праграма ў фае тэатра «Навагоднія прыгоды». Дзякаючы майстэрству артыстаў дзеці сутыкнуліся з сапраўднымі навагоднімі прыгодамі, дапамагалі Дзеду Марозу, выратоўвалі Снягурку, якую скралі разбойнікі. Напрыканцы свята кожны з маленькіх удзельнікаў атрымаў салодкі падарунак.

На тэатральным фестывалі ў Мінску тэатр браў удзел у конкурсе «Нацыянальная тэатральная прэмія»са спектаклем «Прынцэса і Свінапас» і ў «Творчай лабараторыі» з прэм'ерным спектаклем для дарослых «Нататкі вар'ята», паказ якога прызначаны на сакавік.

З удзелам артыстаў і адміністрацыі праходзіць шмат цікавых мерапрыемстваў сярод якіх конкурсы: «Стань юным беларускамоўным паэтам!», «Казка для Караткевіча». Як бачым, жыццё тэатра–гэта не толькі спектаклі.

**Якаў Дрозд.**

# Зьява палёту–знак волі

**У Віцебскім раённым гістарычна-краязнаўчым музее, які знаходзіцца ў агр. Акцябрскі адбылося адкрыццё выставы графікі Таццяны Барысевіч.**

Віцебчанка Барысевіч Тацццяна Анатольеўна выпускніца мастацка-графічнага факультэта УА " Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт". З 2006-2007 гг. – навучалася ў магістратуры і прымала актыўны ўдзел у культурным жыцці. Гэта і ўдзел у выставе, прысвечанай 200-годдзю А.Міцкевіча і А. Пушкіна, у V Міжнародным пленэры ім. І.Я. Рэпіна, удзел у выставе дзіцячай творчасці ў горадзе Амстэрдам (Галандыя), і мастацкі пленэр, прысвечаны памяці К. Вераніцына і 150-годдзю напісання паэмы «Тарас на Парнасе» ў г. Гарадок; удзел у выставе «Калядное свято» ў «Віцебскім цэнтры сучаснага мастацтва»; удзел у Міжнароднай выставе "Ад Марка Шагала да нашых дзён" таксама ў г. Смаленску...

Тацццяна Барысевіч неаднаразова праводзіла майстар-класы, як у Беларусі, так і па-за ейнымі межамі(у мастацкай школе ў Штольценаў для вучняў гімназіі з г. Нінбурга (Нямеччына).

Ейныя мастацкія працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расеі, Галандыі і Нямеччыны.

Выстава графікі «Ціхі палёт», якая адкрылася ў Віцебскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі другая персанальная выстава Тацццяны Барысевіч.

На адкрыццё выставы прыйшлі сябры, калегі па творчым цэху, вучні Тацццяны Барысевіч, якія вучацца ў гімназіі №1 Віцебскага раёна, жыхары пас. Акцябрскі. З вітальным словам звярнуўся дырэктар раённага музея Сідараў А. А., дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва мастацка-графічнага факультэта ВГУ ім. П.М. Машэрава, выкладчык Тацццяны Барысевіч у студэнцкія гады, пажадаў далейшых творчых поспехаў і новых выстаў.

У Тацццяны Барысевіч свой тонкі, выразны, лірычны, трохі наіўны стыль. Гэта выстава – вынік пяцігадовай творчай працы, назіранні за прыродай. Адмысловая ўвага нададзена птушкам: зʼява палёту для мастачкі – своеасаблівы знак волі, як у творчасці, так і ў жыцці.

**Якаў Дрозд.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# Руплівых гаспадароў яшчэ хапае

**Дапаможная гаспадарка, нягледзячы на цяжкасці, спалучаныя з яе вядзеннем, зʼяўляецца надзейнай эканамічнай абаронай для селяніна. У гэтым перакананы Мікалай Сокалаў з в. Чыжыкі Янавіцкага пассавета.**

Пагалоўе рагатага статка на янавіцкіх падворках з кожным годам скарачаецца. Далёка не кожнаму пад сілу трымаць карову. Старыя прадаюць рагулю яшчэ і таму, што пасці ў полі нешматлікі асабісты статак даводзіцца вельмі часта. Пажылыя не могуць, а маладыя часцяком не жадаюць, хаця руплівых гаспадароў яшчэ хапае.

Сярод узорных сялянскіх падворкаў – сядзіба Мікалая Сокалова. Пра такіх кажуць: і швец, і жнец, і на дудзе гулец. На сваіх сотках ён працуе ў адзіночку. І каровы, а іх у яго дзве, дагледжаны, і ўчастак ягоны заўсёды прыклад для іншых. З малаком маці ўвабраў селянін любоў да зямлі і сялянскую загартоўку.

Цяжкасцяў хапае, але да іх руплівы гаспадар падыходзіць з аптымізмам і не апускае рукі, можа, таму і ўсе справы ў яго ладзяцца. Быў час, калі малаказборшчык не заварочваў да ягонай сялібы. Тады Сокалаў самастойна вазіў малако на скуп тары ў в. Глазомічы. Акрамя яго ў аўтапарку асабістай дапаможнай гаспадаркі Мікалая Генадзьевіча трактар. Самаробны «жалезны конь» проста незаменны ў гаспадарцы.

А вось у хляве, дзе ўтрымоўваюцца рагулі, надзея толькі на свае рукі. Мужчына сам корміць, поіць і доіць жывёлаў. Не хавае, што першыя часы рукі стамляліся, але неяк зладзіўся. Н. Сокалаў разумее, што вытворчасць малака – справа выгодная: здаў больш прадукцыі – больш грошай атрымаў. Летась з падворка Мікалая Генадзьевіча паступіла больш за 12 тонаў малака, гэта трэці вынік сярод малаказдатчыкаў па раёне.

**Якаў Дрозд.**

КРЫМІНАЛ

# Не спыняе нават рашэнне суда

**Грамадзянаў, якія прынялі на грудзі чарку-другую, так і цягне сесці за руль свайго аўто. Пра тое, што гэта паездка можа стаць апошняй сам кіроўца ў нецвярозым стане не задумваецца.**

За 2012 год на ўлік у крымінальна-выканаўчую інспекцыю Віцебскага РАУС былі пастаўлены 12 асобаў, асуджаных за паўторнае кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення.

Грамадзяне, якіх праваахоўнікі першы раз спыняюць за рулём пад шафэ, нясуць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення права займацца дзейнасцю, злучанай з кіраваннем усімі відамі транспартных сродкаў на розныя тэрміны. Дадзеным асобам таксама прызначаецца пакаранне ў выглядзе штрафу, максімальная сума якога можа дасягаць 25 млн. беларускіх рублёў.

Аднак і пасля пазбаўлення правоў кіроўцы, ды накладання буйнога спагнання сяго-таго ўсё адно так і цягне ў дарогу. Напрыклад, у 2012 годзе ў стаўленні да чатырох жыхароў Віцебскага раёна былі ўзбуджаны крымінальныя справы па арт.417 УК РБ «Невыкананне рашэння суда пра пазбаўленне права займацца вызначанай дзейнасцю». Характэрна, што дадзеныя асобы кіравалі транспартнымі сродкамі ў цвярозым стане, але ўжо пасля першаснага парушэння. Адпаведна, пасля такога вандравання гора-кіроўцы згодна санкцыі арт.417 трапляюць пад пакаранне ў выглядзе штрафу альбо арышту на тэрмін да 6 месяцаў у папраўчай установе.

Грашаць кіраваннем у нецвярозым стане не толькі мужчыны. На ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі РАУС летась знаходзілася адзіная жанчына з усёй Віцебскай вобласці, жыхарка Віцебскага раёна, якая была асуджана за паўторнае кіраванне транспартным сродкам.

**Ян Сведка.**

ПАЛІТЫКА

# Старшынёй кааліцыі абраны Леанід Аўтухоў

**У Віцебску створана кааліцыя па супольным святкаванні 25 сакавіка Дня Волі. У склад кааліцыі ўвайшла большасьць апазыцыйных палітычных сілаў, што дзейнічаюць на тэрыторыі нашай вобласці: Партыя БНФ, Рух «За свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і незарэгістраваная БСДП (Народная Грамада). Старшынём кааліцыі абраны Леанід Аўтухоў, кіраўнік абласной арганізацыі партыі БНФ.**

Удзельнікамі кааліцыі прынята рашэнне на Дзень Волі зладзіць мітынг. Адпаведная заяўка на ягонае правядзенне будзе пададзеная ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску. Мітынг мусіць адбыцца ў месцы, адведзеным уладамі пад масавыя мерапрыемствы, – у парку чыгуначнікаў, побач са стадыёнам «Лакаматыў». Мяркуецца, што ў акцыі возьмуць удзел дзясяткі жыхароў Віцебску.

**Ян Сведка.**

# Героем болей

**21 студзеня малады чалавек на вачах у шматлікіх мінакоў падняўся на слуп і замацаваў на ім нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Гэта адбылося ў самым цэнтры гораду, каля «Сіняга дому».**

Акцыя прымеркавана да 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага. Падобнае дзеянне пагражае выканаўцы не толькі затрыманнем, але куды большымі наступствамі, бо беларускі сцяг дэ-факта застаецца забароненым у краіне, пасля таго як у 1995 годзе рэжым Лукашэнкі замяніў яго на чырвона-зялёны.

Даўно вядома, што ў Віцебску дзейнічае таямнічы Мірон, які вывешвае сцягі на самых высокіх і недасяжных пунктах, у тым ліку на лініях электраперадач. Відаць, што ў Мірона зьявілася нямала паслядоўнікаў, сярод якіх найбольш вядомы С. Каваленка, які трапіў у турму ў 2012-м, за тое што ўмацаваў бел-чырвона-белы сцяг на галоўнай каляднай ялінцы гораду.

З выкладзенага ў інтэрнэце відыё, бачна, што гэты хлопец не падобны на Сяргея – значыць яшчэ адным героем болей.

**Ян Сведка.**

ТАМОЖНЯ

# ВЫВАЗ КАНТРАБАНДНЫХ ЦЫГАРЭТ ПАЧАСЦІЎСЯ

**Па дадзеных Віцебскай мытні, за апошні час пачасціўся вываз кантрабандных цыгарэт.**

У рэспубліканскім пункце мытнага афармлення «Урбаны» супрацоўнікамі Віцебскай мытні сумесна з супрацоўнікамі памежнай службы пры выездзе з Рэспублікі Беларусь 12 студзеня бягучага года быў дагледжаны мікрааўтобус ДАФ 400, за рулём якога знаходзіўся грамадзянін Расіі. Пад дном транспартнага сродку была выяўлена схованка з цыгарэтамі, утоеными ад мытнага кантролю ў трох адмыслова вырабленых схованках, доступ да якіх адкрываўся толькі пасля дэмантажу асобных частак аўтамабіля. Усяго ў схованцы знаходзілася 3410 пачкаў цыгарэтаў на суму парадку 19,5 млн. рублёў. Тавар і аўтамабіль коштам 40 млн. беларускіх рублёў затрыманы. Пачаты адміністрацыйны працэс.

А на наступны дзень пасля разгледжанага выпадку ў рэспубліканскім пункце мытнага афармлення «Бігосава-2» супрацоўнікамі Віцебскай мытні сумесна з супрацоўнікамі памежнай службы пры даглядзе вагона грузавога цягніка № 2865 пад вуглём выяўлены 1 986 пачкаў (39720 шт.) цыгарэт айчыннай вытворчасці. Тавар коштам 9 731 400 рублёў затрыманы.

Тыднем раней у гэтым жа пункце мытнага афармлення пры правядзенні мытнага кантролю пасажырскага цягніка № 87 «Менск-Рыга» супрацоўнікамі мытні сумесна з органамі памежнай службы ў адным з купэ вагона № 4 былі выяўлены 380 пачкаў цыгарэт «Minsk capital», маркіраваных беларускімі акцызнымі маркамі. Уладальніка тавара выявіць не атрымалася. Кошт цыгарэт 1 672 000 беларускіх рублёў.

У сувязі з наяўнасцю прыкметаў адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч.3 арт.14.1 КААП РБ, праведзена працэдура вынятку цыгарэт.

**Ян Сведка.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПАМЯЦІ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА



РАНІШНІ ЗВАНОК УЛАДЗІМІРА АРЛОВА 20 СТУДЗЕНЯ ПРЫНЁС МНЕ СКРУШНУЮ НАВІНУ: ПАМЁР МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ. ВЕСТКА АБ СМЕРЦІ БЛІЗКАГА ЧАЛАВЕКА ЗАЎСЁДЫ АГЛУШАЕ. У ЯЕ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ. ЦЯЖКА САБРАЦЦА З ДУМКАМІ. ЦЯЖКА НЕШТА ВЫМАВІЦЬ. А СКАЗАЦЬ АБАВЯЗКОВА ТРЭБА. І СКАЗАЦЬ УСЛЫХ. ДЛЯ ЎСІХ. НЕ ТОЛЬКІ ПА ПРАФЕСІЙНАМУ АБАВЯЗКУ ЖУРНАЛІСТА І РЭДАКТАРА.

З той, галоўнае, прычыны, што Міхась Чарняўскі — асоба, чые словы і справы ўжо аказалі ўплыў на развіццё беларускага грамадства, але не страцілі сваёй дзейснай актуальнасці. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё жыццё, аднак яна, на жаль, яшчэ не атрымала свайго лагічнага завяршэння.

Вучоны — гісторык, археолаг. Пісьменнік. Палітык. Грамадскі і культурны дзеяч. Гэта ўсё пра яго. І ўсе гэтыя азначэнні лёгка абагульняюцца пад адно: Міхась Чарняўскі — выбітны асветнік і дзеяч Беларускага Адраджэння канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Адзін з яго архітэктараў, яго творцаў.

Свядома абраны шлях. Не скажу, што са школы, бо не ведаю, але дакладна — са студэнцкіх часоў, пра што чуў ад яго. «Нічога сур'ёзнага, — з уласцівай яму тонкай іроніяй, — жартаваў Міхась. — Так, асцярожна прашчупвалі адзін аднаго на інтарэс да беларушчыны, на жаданне размаўляць на беларускай мове. Своеасаблівая нефармальная кампанія, гурток, клуб па інтарэсах. Нацыянальная самаадукацыя. Праўда, падпольная. Бо добра ўсведамлялі, чым пагражае абвінавачванне ў нацыяналізме»...

Я толькі пачынаў свой шлях у навуку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук, а Міхась ужо быў старшым навуковым супрацоўнікам. І вось — сход працоўнага калектыву: інфармацыя кіраўніцтва аб выкрыцці групы нацыяналістаў. Што ўразіла — патрабавання «крыві» Міхася Чарняўскага ў іх выступах не было. Як не было ў рэзалюцыі і патрабавання аб яго звальненні. Думаю, не па прычыне разумення нацыянальных прыярытэтаў, ад якога тагачасны склад навукоўцаў быў яшчэ вельмі далёка, а з павагі да Міхася Чарняўскага. Яго звольнілі на год па рашэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі на чале з Машэравым. У чымсьці таксама вымушаным — пад ціскам з Масквы.

Ужо пазней, калі мы шчыльна супрацоўнічалі з Міхасём на палітычным попрышчы, а менавіта, аднаўлення беларускай сацыял-дэмакратыі, я меў магчымасць пераканацца, як яго паважалі людзі самых розных поглядаў і пазіцый. І аднадумцы, і праціўнікі. Такім шчырым і добразычлівым ён быў у адносінах з людзьмі. Ён меў бясспрэчны маральны і інтэлектуальны аўтарытэт — для ўсіх, з кім зводзіў яго лёс, на ўсіх этапах жыцця і дзейнасці. Не выпадкова менавіта яму Ларыса Геніюш даверыла на захаванне сваю «Споведзь», якая была апублікавана ўжо ў час палітычных перамен у Беларусі.

Археалогія была пакліканнем Міхася Чарняўскага. Але адначасова і інструментам у справе беларускага Адраджэння. Прычым, ці не адзіна легальным у савецкіх умовах. Праз навуковыя і папулярныя працы, мастацкія творы ён адкрываў Беларусь старажытную. А калі сталася магчымым, першы адкрыў нам і тэму антысавецкага супраціву. «Як пошуг маланкі» — кніжка пра Расціслава Лапіцкага абрынула савецкі міф аб палітычнай еднасці савецкага рэжыму.

З навуковай сцяжыны Міхась ніколі не сыходзіў, нават ужо хварэючы, выбіраўся ў археалагічныя экспедыцыі. Планаваў іх і на гэтае лета. Але калі адчуваў мэтазгоднасць, якую вызначаў выключна па крытэру магчымай карысці беларускай справе, не гойдаючыся з галавой акунаўся ў практычную палітыку. Быў у ліку сябраў арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. І ён жа першы, падчас працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) выказаў ідэю аб неабходнасці адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Паклаў шмат высілкаў і нерваў на аб'яднанне сацыял-дэмакратыі. На жаль, пакуль не атрымалася...

Здабыткі Міхася Чарняўскага застаюцца ў практычным арсенале беларускага дэмакратычнага адраджэнскага руху.

**Аляксей Кароль, "Новы час".**
**Фота Арцёма Лявы.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# НА «ПАГАЛОЎНУЮ» МАДЭРНІЗАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ГРОШАЎ

УРАД ДАРУЧЫЎ МІНФІНУ І МІНЭКАНОМІКІ ЗНАЙСЦІ ГРОШЫ НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. У МАТЭРЫЯЛАХ САЎМІНА РАНЕЙ ПАКАЗВАЛАСЯ, ШТО Ў 2013 ГОДЗЕ МАДЭРНІЗАЦЫЯЙ БУДЗЕ АХОПЛЕНА БОЛЬШ ЗА ТЫСЯЧУ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВАЎ. ДЛЯ РЭАЛІЗАЦЫІ ГЭТАК ГЛАБАЛЬНАЙ ЗАДАЧЫ СПАТРЭБІЦЦА НЕ АДЗІН МІЛЬЯРД ДАЛЯРАЎ. ДЗЕ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ВОЗЬМЕ ДЗЯРЖАВА?

**Мільярды даляраў, якіх не відаць**

Паводле заяў урада, «найважнейшым прыярытэтам» ў 2013 годзе з'яўляецца мадэрнізацыя прадпрыемстваў. Падчас селектарнай нарады, якую правёў Міхаіл Мясніковіч у першыя дні студзеня, было заяўлена, што ў гэтым годзе неабходна будзе закупіць абсталяванне, каб паскорыць тэмпы абнаўлення вытворчых магутнасцяў краіны.

Дакладную суму, якая спатрэбіцца для вырашэння гэтак амбіцыйнай задачы, яшчэ трэба высветліць. Аднак сумнявацца ў тым, што сума гэтая будзе з многімі нулямі на канцы, не прыходзіцца. Дарэчы, мадэрнізацыя толькі мінпрамаўскіх прадпрыемстваў ацэньваецца ў 3,1 млрд. даляраў.

Галоўнае пытанне - дзе знайсці столькі грошай на такую маштабную мадэрнізацыю дзяржпрадпрыемстваў. Неэмісійных сродкаў, за кошт якіх можна было б прафінансаваць гэты праект, пакуль не відаць. Уласных сродкаў прадпрыемствам відавочна не хопіць. Паводле звестак Белстата, больш за палову прадпрыемстваў маюць нізкі ўзровень рэнтабельнасці (да 10%).

«У бюджэце неабходных сум на мадэрнізацыю не закладзена, крэдытныя рэсурсы па існуючых стаўках для прадпрыемстваў недаступныя. Зыходзячы з рэйтынгаў краіны і палітычных рызык, магчымасці прыцягнуць крэдыты ў рамках замежных крэдытных ліній таксама абмежаваныя », - кажа эксперт Naviny.by ў фінансавых колах.

У прагнозных дакументах на 2012 год закладвалася, што за кошт прыватызацыі краіна атрымае 2,5 млрд. даляраў. Па факце атрымалася прыцягнуць ад продажу акцый дзяржпрадпрыемстваў толькі 1,8 млн. даляраў. Таму разлічваць, што за кошт прыватызацыі атрымаецца прыцягнуць грошы на мадэрнізацыю, таксама не даводзіцца.

Тым не менш, ад планаў па мадэрнізацыі дзяржава наўрад ці адмовіцца, паколькі выкананне гэтых планаў прама ўвязана з выкананнем шэрагу дырэктыўных паказчыкаў. Як адзначаў восенню Міхаіл Мясніковіч, «калі мы не забяспечым пагалоўную мадэрнізацыю прадпрыемстваў», то «выходзіць на паказчыкі 2013 года і пяцігодкі будзе вельмі складана».

**Дзмітрый ЗАЯЦ, "Белапан".**

НАША ЎЛАДА

# «ДЗЯРЖАЎНЫ» РОЗУМ

ДЗЕ ЯШЧЭ, У ЯКОЙ КРАІНЕ НА ВЫШЭЙШАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАСАДЗЕ МОЖНА ПАБАЧЫЦЬ СТРАТЭГА З ТАКІМ УЗРОЎНЕМ ДЗЯРЖАЎНАГА МЫСЛЕННЯ?

“Вы кажаце, што нешта трэба рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзём плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі”.

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне. “Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзе назіраецца перавытворчасць кадраў, але моладзь гэтая акалічнасць мала турбуе, пралічвайце сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывём ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму”. ...

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся — стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і балючую праблему павышэння заробкаў выхавацелям дзіцячых садкоў. “Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі працэнт ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу”.

Усе вышэйпрыведзеныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек — намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, Анатоль Афанасьевіч Тозік. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі “выпраўлення сітуацыі” і “паляпшэння жыцця людзей”. Але ад усіх хвароб у яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека....

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што заняткі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць — жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, — гэта адна праблема. Але ж галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць няблага, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняю рэчаіснасць, спашлюся на нядаўні матэрыял “Гомельскай праўды” (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна. “Колькі зарабляеце ў месяц?” — запыталіся начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: “За 320 рабочых гадзін — 1 мільён 300 тысяч рублёў”.

Вы ўяўляеце, што такое 320 рабочых гадзін? Гэта болей чым па 10 гадзін штодзённа, без выхадных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя садкі, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей увогуле павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя заняткі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: “Плаціце, плаціце, плаціце...”

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзеці даўно ходзяць у камерцыйныя садкі, спецыяльныя школы і прыватныя медыцынскія цэнтры. Але ці задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў няма?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя расходы (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратур, міліцыі, КДБ і т.п.) у 2006 годзе складалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе — ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м — толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць хібаў у тым, што чыноўніцтва і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы на сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных — процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі “дзяржаўны розум” спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хаця ў любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць...

**Святлана КАЛІНКІНА, “Народная Воля”.**

НАША ДАТА

# БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ СВЯТА

НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СТУДЭНЦКІМ СВЯТАМ МАЕ БЫЦЬ ДЗЕНЬ СТВАРЭННЯ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА. ТАЦЯНІН ДЗЕНЬ НЯ МАЕ НІЯКАГА ДАЧЫНЕНЬНЯ ДА СЬВЯТАЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА, ПЕРАКАНАНЫ ГІСТОРЫК І ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ АЛЕГ ТРУСАЎ.

Гэтым днём павінна лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя аб утварэньні Віленскай акадэміі.

“Калі расейская імпэратрыца Лізавета Пятроўна падпісала амаль 260 гадоў таму ў дзень вялікамучаніцы Тацяны загад аб стварэньні Маскоўскага ўнівэрсытэту, Беларусь жыла ў сваёй незалежнай краіне. І Тацянін дзень ня мае ніякага дачыненьня да сьвятаў беларускага студэнцтва,

расказаў вядомы гісторык і грамадзкі дзеяч Алег Трусаў.

Указ Лізаветы Пятроўны пра стварэньне Маскоўскага ўнівэрсытэту датуецца 25 студзеня 1755 году, пасля чаго беларускія землі яшчэ паўстагодзьдзя заставаліся незалежнымі ад Расейскае імпэрыі. Таму сьвяткаваньне гэтак званага Тацянінага дня ў сёньняшняй Беларусі ёсьць вынікам сьвядомага навязваньня нашай моладзі чужых традыцыяў, гаворыць Алег Трусаў: «Калі людзі ня ведаюць гісторыі, то тады яны трапляюць у сьмешныя сытуацыі. Калі ствараўся Маскоўскі ўнівэрсытэт, Беларусь не ўваходзіла ў Расейскую імпэрыю. Таму ніякага дачыненьня Тацянін дзень да Беларусі ня мае ні зь якога боку».

У беларускіх студэнтаў за сваё нацыянальнае студэнцкае сьвята мае быць дзень стварэньня Віленскага ўнівэрсытэту, які да Лізавецінскага ўказу налічваў ужо амаль 200-гадовую гісторыю і быў найстарэйшым ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Гэта, дарэчы, прызнавалася нават за савецкай уладай, гаворыць Алег Трусаў: «Яшчэ калі існаваў Савецкі Саюз, усе ведалі, што самы старажытны ўнівэрсытэт на тэрыторыі СССР — гэта Віленскі. І літоўцы ў свой час дабіліся, што 400-гадовы юбілей Віленскага ўнівэрсытэту сьвяткаваўся ва ўсесаюзным маштабе. Была нават выдадзеная паштовая марка Савецкага Саюзу з выявай галоўнага корпусу ўнівэрсытэту і датаю — 400 гадоў».

Віленскі ўнівэрсытэт створаны паводле прывілею караля Стэфана Баторыя, выдадзенага ў 1578 годзе. Але афіцыйнаю датаю ягонага адкрыцьця лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя. На двух факультэтах Віленскага ўнівэрсытэту выкладаліся ўсе на той час прыродазнаўчыя і гуманітарныя дысцыпліны. Абавязковымі для ўсіх студэнтаў былі клясычныя мовы — грэцкая, лацінская і габрэйская; новыя — нямецкая і француская, і мова дзяржаўнага справаводзтва ВКЛ — беларуская.

**”Радыё Свабода”.**

САЦЫЯЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА. ДЗЯРЖАВЕ ПАРА ГУЛЯЦЬ НА АПЯРЭДЖАННЕ

ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК БЕЛСТАТА, КОЛЬКАСЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ У КРАІНЕ ДАСЯГНУЛА 2,5 МІЛЬЁНА. СООТНОШЕНИЕ КОЛЬКАСЦІ ПРАЦУЮЧЫХ ДА ПЕНСІЯНЕРАЎ ЗМЕНШЫЛАСЯ ДА 1,5. БЕЛАРУСКІМ УЛАДАМ САМЫ ЧАС СУР’ЁЗНА ЗАДУМАЦЦА ПРА ЗМЕНЫ Ў ПЕНСІЙНАЙ СІСТЭМЕ.

**Але ці пойдзе кіраўніцтва краіны на пенсійную рэформу?**

Пра тое, што пенсійнай сістэме патрэбна рэформа, незалежныя эксперты казалі даўно. Ды і самі ўлады, хутчэй за ўсё, разумеюць гэта, але замахнуцца на сьвятое для народа ў шкоду сабе не хочуць. Аднак сітуацыя ў гэтай сферы складваецца так, што ў бліжэйшы час кіраўніцтву краіны прыйдзецца задумацца аб непапулярных кроках.

Нягледзячы на тое, што ў 2012 годзе Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) атрымалася сфармаваць з прафіцытам, ужо да 2014 году, па прагнозах Сусветнага банка, ФСАН можа сутыкнуцца з дэфіцытам.

У кіраўніцтва краіны ёсць некалькі варыянтаў гульні на апярэджанне. Кожны з іх утрымлівае меры, якія будуць вельмі хваравітыя для ўладаў, так як прадугледжваюць шэраг эканамічных і палітычных рызык.

**Павысіць пенсійны ўзрост - апошняе, на што пойдзе кіраўніцтва краіны**

Этап, які праходзілі практычна ўсе еўрапейскія краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту. Гэтая мера выключна нежаданая для ўладаў, бо, па сутнасці, гэта ўдар у самае сэрца беларускай ідэалогіі, разбурэнне патэрналіцкага міфа. У рыторыцы прэзідэнта і іншых службовых асоб не раз гучаў тэзіс аб тым, што ў адрозненне ад нашых заходніх і ўсходніх суседзяў Беларусь - сацыяльная дзяржава для народа, і таму ўлады не пойдуць на такі крок.

Яшчэ ў красавіка 2012 года Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра неабходнасць рэфармавання сістэмы пенсійнага забеспячэння, але без павелічэння пенсійнага ўзросту: «Удасканальваючы пенсійную сістэму, мы адкідаем варыянт, па якім пайшлі Еўропа, Украіна, іншыя краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту».

І на самай справе, падвышаючы пенсійны ўзрост, улады будуць секчы сук, на якім сядзяць: у электараце Лукашэнка шмат людзей перадпенсійнага ўзросту і пенсіянераў. Павелічэнне ўзросту выхаду на пенсію напэўна негатыўна адаб’ецца на і без таго не занадта высокім сёння рэйтынгу прэзідэнта.

Такім чынам, на павышэнне пенсійнага ўзросту ўлады ў агляднай перспектыве (па крайняй меры, да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года) наўрад ці пойдуць. Як і іншыя наспелыя праблемы, гэтую ўлады вырашылі адсунуць на потым.

Яшчэ адным малаверагодным варыянтам скарацiць магчымы дэфіцыт ФСАН з’яўляецца памяншэнне памеру пенсіі. Такі ход падзей, можа, і не выкліча сацыяльны выбух, але масавая незадаволенасць будзе забяспечана. Пенсіі ў Беларусі і так вельмі сціплыя.

Так, сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў 2012 годзе склаў 182,6 даляра. Плануецца, што ў 2013 годзе паказчык узрасце да 218,1 даляра ў эквіваленце. Аднак пакуль абяцанае на люты павышэнне пенсіі адменена - на гэта няма грошай.

Акрамя таго, улічваючы сярэднюю працягласць жыцця ў краіне (мужчыны - 66 гадоў, жанчыны - 77), можна канстатаваць, што многія беларусы не паспяваюць ў поўнай меры скарыстацца і гэтымі сродкамі.

**Улады ахвяруюць эфектыўнасцю, каб залатаць дзіркі**

Не з’яўляецца магчымым рашэннем праблемы і павышэнне падатковых адлічэнняў у ФСАН. У іншай сітуацыі ўлады, можа быць, і скарысталіся б такім спосабам, але не цяпер, ды і памерам адлічэнняў расці няма куды.

Цяпер яны складаюць 35% ад фонду заработнай платы, прычым асноўны цяжар - 34% - ляжыць на наймальнікаў. У выпадку ж калі наймальнік з’яўляецца і работнікам і працадаўцам, памер падаходнага падатку і выплат у ФСАН можа перавысіць 50% ад заробку.

Такі ўзровень адлічэнняў працадаўцаў з’яўляецца адным з самых высокіх у свеце. Акрамя таго, ён штурхае да ўтойванню рэальнага памеру даходу. Як правіла, наймальнікі зніжаюць афіцыйныя лічбы, выкарыстоўваюць схему зарплаты ў канверце. Такое становішча рэчаў паказвае неэфектыўнасць сённяшняй сістэмы сацыяльнага забеспячэння ў цэлым.

Хутчэй за ўсё, для падтрымання ўзроўню пенсійнага забеспячэння без павышэння ўзросту выхаду на пенсію ўлады паспрабуюць абысціся малой крывёю і пойдуць на датаванне ФСАН, напрыклад, за кошт пазабюджэтных крыніц.

Для павышэння эфектыўнасці пенсійнай сістэме патрэбныя рэформы. Нясмелы крок улады зрабілі, даўшы магчымасць дыферэнцыраванага павышэння пенсіі за кошт больш позняга выхаду на яе. Такія меры прадугледжвае ўказ прэзідэнта № 136 ад 18 сакавіку 2012 «Аб мерах па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян».

Аднак гэтага недастаткова. Неабходна развіваць сістэму пенсійнага страхавання, пераходзіць да назапашвальнай сістэмы пенсійнага забеспячэння і пераразмеркавання цяжару выплат у ФСАН паміж наймальнікам і працаўніком.

**Мікіта Бяляеў, naviny.by.**

НАША ГРАМАДСТВА

# НАВАПАЛОЦКІ КАНТРАЛЁР, ЯКУЮ ЦЯГАЛІ ЗА ВАЛАСЫ, ЗМЯНІЛА ПРАЦУ

ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ Ў НАВАПОЛАЦКІМ АЎТОБУСЕ КАНТРАЛЁР ЛЮДМІЛА ШАХЛІНА ЗМЯНІЛА ПРАЦУ. А АБВІНАВАЧАНЫ, ЯКІ НАНЁС ЁЙ ТРАЎМЫ, ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАПАРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ.

“Людміла Іосіфаўна напісала заяву. Пасля таго інцыдэнту яна працаваць на былым месцы чыста маральна не змагла, — распавядаюць у ідэалагічным сектары аўтапарка №6 г. Наваполацка. — Цяпер яна працуе ў нас, але на іншай пасадзе”.

Відэа скандальнага інцыдэнту ў наваполацкім аўтобусе разышлося па інтэрнэце напрыканцы лістапада. Людміла Шахліна (так гучыць яе сапраўднае прозвішча) даволі жорстка спрабавала спагнаць штраф з сям’і — мужа, жонкі і дваіх малых дзяцей. За сям’ю заступіўся 22-гадовы грамадзянін, які схапіў кантралёра за валасы і нахіліў, траўмаваўшы той шыю.

Відэаролік здарэння выклікаў спрэчкі: ці законна дзейнічала кантралёр і хто гэты хлопец — хуліган ці Робін Гуд.

“Ведаем, што была вочная стаўка, якая ні да чаго не прывяла, — працягваюць распавядаць у ідэалагічным сектары аўтапарка. — Выбачэнні не былі атрыманы. Грамадзянін Мікалай Б. не збіраецца прасіць прабачэння”.

“Проста спрабуюць закрыць гэту справу за недаказанасцю нейкай. Вырашаецца, ці мы пойдзем на нейкае прымірэнне, ці справу накіруюць у суд”, — выказваецца Людміла Іосіфаўна.

Верагодна, ужо найбліжэйшым часам мы даведаемся пра развязку скандальнага здарэння ў наваполацкім аўтобусе.

У сапраўдны час следства працягваецца. Тэрмін заканчваецца ў панядзелак 28-га студзеня. Пра прынятае працэсуальнае рашэнне мы паведамім дадаткова.

**Яўген Валошын, “Еўрарадыё”.**

НАШ ГЕРОЙ

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ БЕЛАРУСКАГА СЭРЦА

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ПЕРШЫ ЗАСТУПНІК ЗА БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА, ВЕРУ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НАШАГА КРАЮ — СТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГЕРОЕМ НЕ АД ТАГО, ШТО ТАК ПАСТАНАВІЛІ РАДА БНР АБО ЦК КПБ. ЯГОНЫ ВОБРАЗ ВЯЛІКАГА СПРАВЯДЛІВАГА ПАКЛАЎСЯ НА БЕЛАРУСКУЮ ДУШУ, КУДЫ Б СКІРАВАНАЮ ЯНА НІ БЫЛА. ЯГО ПРЫНЯЛІ І КАМУНІСТЫ І НАЦЫЯНАЛІСТЫ І ПРОСТА БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ.

У мінулую вайну савецкі партызанскі атрад імя Каліноўскага мог спаліць вясковую школку толькі за тое, што настаўнік выкладае дзеткам зьмест «Мужыцкае праўды»: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе»…

Мноства вядомых вершаў, раманы і нават пачатак беларускага кінэматографу — пра яго.

Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец.

Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. Улады знайшлі кампраміс (не замахнуліся на імя Справядлівага) — перайменавалі толькі частку вуліцы з гэтай самай царквою.

Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае тоеснасьці. У Беларусі ўсе ад вясковай бабулькі да экзальтаванага сталічнага школьніка, ад бамжа да пасьпяховага бізнэсоўца, ад рэжымнага чыноўніка да дысыдэнта скажуць табе, што Каліноўскі — наш.

Што хаваецца за гэтым фэноменам? Думаю, глыбока схаваная ў душы ўзаемнасьць.

Выпускнік Пецярбурскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам «польскага» паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або «прагматызму». І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзнікі — ідзе на эшафот.

Як Хрыстос.

Чысты, беззаганны, сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат пасылаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім.

Замест расстрэлу, які «належаў» военачальніку ўсяе Беларусі і Літвы, ён у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта. І як Хрыстос аб’ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб’ядноўвае супольнасьць Беларусы.

«Дэгераізаваць» яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва «дэгераізаваць» Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях панятні справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі.

У адрозненьне ад сымболікі і мовы, якія на вуліцах і ў эфірах яшчэ можна чымсьці замясьціць, на месцы спляжанага нацыянальнага героя ў беларускім сэрцы застаецца пустата.

**Сяргей Дубавец, Радыё Свабода.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мапраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 30.01.2013 у 17.45.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.